Цана асобнага нумару 300.000 м.

# Сын Беларуса



Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень. Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 3.600000 м. Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. Цана абвестак: перад тэкстам 400.000 мк., сярод тэксту 300.000 м. і на 4 стр. 250.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 8. Вільня, Субота, 28-га чэрвеня 1924 г. Год I.

## Калечаньне моладзі.

Тая „кітайская сьцяна“, што падзяліла нашу Бацькаўшчыну на Усходнюю і Заходнюю Беларусь, разьбіўшы гэтак суцэльны гаспадарчы і нацыянальны арганізм Беларусі, суліць нам у будучыні нязвычайна цяжкія і грозныя вынікі. На адным з іх мы сяньня затрымаемся.

Справа йдзе аб *нашую моладзь*, якая узгадовываецца па гэты і па той бок гранічнае мяжы. Бо пад той час, як там, на Усходзе, моладзь наша ўзгадовываецца на *шырокіх агульналюдзкіх ідэалах*, як там у аснову ўсяе ідэалёгіі яе пакладаецца *пашана да працоўнага народу*, што зьяўляецца сам для сябе „богам“, — тут, на Захадзе, бачым нешта прост процілежнае.

Кажучы аб узгадаваньні нашае моладзі ў Заходняй Беларусі, трэба агаварыцца, што толькі зусім малая частка яе мае шчасьце вучыцца ў роднай, беларускай школе, вернай вялікім вызвольным ідэалам—агульналюдзкім і сваім, беларускім. Прычына гэтага — тое, што *беларускіх школ вельмі мала*. Затое вялізарная большасьць нашае моладзі прымушана йсьці ў польскія школы, і аб іх і будзем тут гаварыць.

Ужо самыя назовы польскіх школ красамоўна гавораць аб іх кірунку і духу. Возьмем адну толькі Вільню: унівэрсытэт—*караля* Стэфана Баторыя, гімназія—*караля* Зыгмунта Аўгуста, вучыцельская сэмінарыя для дзяўчат—*каралевы* Ядвігі і г. д. Культ каралёў, культ ідэі манархізму пранікае і ў школьныя падручнікі,—і вось нашы хлопцы і дзяўчаты, што чарпаюць навуку з польскае крыніцы, даведываюцца ў школе, што кожын кароль быў шляхотны, мудры, адважны, поўны ўсіх цнот, быццам нейкая панадлюдзкая істота, — затое тыя, хто адважаўся волі караля проціпаставіць волю народу, хто падыймаў народныя масы на барацьбу за вызваленьне,— усе яны нягоднікі, здраднікі і г. д. А побач з каралеўскаю ўладаю ідэалізуецца польская шляхта і каталіцтва. Калі да гэтага *патройнага культу манархіі, панскасьці і каталіцкае царквы* дадаць *хваравіты нацыяналізм*, які ўбівае дзецям у галовы пераканаsuccenьне, што *няма нічога на сьвеце вышэй за польскую культуру*,—дык вось і ўсё тое, на чым грунтуецца ў польскай школе *гуманістычнае узгадаваньне*.

Мы павінны, аднак, адзначыць, што польская творчая мысьль, якая выяўлялася найбольш у польскай літэратуры, не магла абмяжовывацца падобнымі вузкімі рамкамі і ў-ва ўсе часы шукала для сябе больш прастору, залятала на найвышэйшыя вяршыны чалавечага духа. Вось-жа, польская школа імкнецца да таго, каб вучні такіх „вольнадумных“ твораў, якія запраўды маглі-бы пашырыць сьветагляд моладзі, ня чыталі. Прыглядзьцеся толькі да праграм чытаньня польскіх аўтараў. З трох вялікіх рамантыкаў: Красінскага, Міцкевіча, Славацкага — у школах асабліва чытаюцца і разьбіраюцца два апошнія, як найбольш нацыянальныя,—затое толькі зьлёгка, як-бы нехаця, праграмы лектуры затрымліваюцца на Красінскім — гэным бунтарскім духу, што ўмеў падняцца панад сваім народам і агарнуць сваім паглядам увесь сьвет, усю людзкасьць! А Сенкевіч? Яго нацыяналістычная трылёгія — апотэоза шляхты, манархізму і каталіцтва—пераважовываецца на ўсе лады, яе чуць што не напамяць ведаюць вучні. Таксама „Rodzina Połanieckich“, самае яркае адбіцьцё польскіх буржуазных ідэалаў. Затое ня чытаюцца зусім ані сусьветнае славы твор таго-ж Сенкевіча „Quo vadis?“, перакладзены блізу на ўсе эўрапэйскія мовы, ані „Faraon“ Пруса, ані „Popioły“ Жэромскага, ані „Eros i Psyche“ Жулаўскага, ані, наагул, усе другія творы навейшых польскіх пісьменьнікаў, дзе выяўляюцца вялікія парываньні вольнае душы *чалавека*. Бо не чалавека хоча ўзгадаваць польская школа, а—добрага ўрадоўца, паліцэйскага, жандара, добрага буржуя, які-бы, адпаведна ўзгадаваны, быў шчырым абаронцам сучаснага сацыяльнага і палітычнага ладу ў Польшчы.

Вось, у якім духу узгадовываецца і наша моладзь у польскай школе. „Будзь ты паляком, і больш табе нічога ня трэба!“ — так можна высказаць тое, чым прапітываецца беларускі хлопец і беларуская дзяўчына, скончыўшыя навуку ў польскай школе. І ціж трэба дадаваць, што на гэтым грунце у іх вытвараецца пагляд, што ўсё *не-польскае, не-панскае, не-каталіцкае — нічога ня варта*? Што яны *навучаюцца пагарджаць свой народ і працоўнага чалавека наагул*? Што яны зусім шчыра *плююць на сваіх-жа нават польскіх работнікаў*, як плявалі ў Вільні 1 мая з вакон на работніцкі паход вучаніцы аднае тутэйшае польскае школы?!...

Як бачым, той дух, якім прапітываюць нашу моладзь у польскай школе на Захадзе, запраўды рэзка пярэчыць усяму таму, што ідэалізуецца на Усходзе. І гэта зьяўляецца для нас вялізарнай пагрозай, што *сыны нашага народу, вырасшыя наабапал гранічнае мяжы, стаўшыся сталымі людзьмі, ня будуць разумець адны адных*, — што фізычны падзел Беларусі *правядзе мяжу і між душамі нашымі*.

Гэтая пагроза шмат страшней, чым самы толькі палітычны падзел нашае Бацькаўшчыны. І з гэтай небясьпекай трэба змагацца ўсемі сіламі, трэба *бараніць нашу моладзь ад гэткага духовага калецтва*, якое, паміж іншым, ўжо выяўляецца на Захадзе, прыкладам, у нашых віленскіх студэнтах-беларусах. Трэба, каб нашае грамадзянства усьвядоміла сабе, да чаго гэта вядзе, і каб асаблівую ўвагу зьвярнула на тую нашую моладзь, якую калечыць духова сучасная польская школа.

Моладзь—гэта-ж наша будучына. І ўся наша гэраічная праца *для сучаснасьці* ня будзе мець вагі, калі мы не забясьпечым сабе *будучыны*.

## Каталіцтва, як аружжа польскасьці.*)

З увагі на нязвычайна вялікае значэньне для нашага народу справы аб'яднаньня у непадзельную сям'ю усіх беларусаў-праваслаўных і каталікоў, дзеленых „маскоўскім“ праваславіем і „польскім“ каталіцтвам, перадруковываем гэту стацьцю з газэты „Krynica“, якая выходзе у Вільні. — Рэд.

Беларусы каталікі ў працягу некулькі сталецьцяў, пры розных палітычных варунках, прымалі каталіцтва ад свайго заходняга суседа — Польшчы. Гэта каталіцтва, з дужа малымі выняткамі, прышчэплівалася нам не як навука Хрыста, але як палітычнае аружжа дзеля апалячваньня беларусаў.

Найвыразьнейшым доказам гэтага ёсьць унія праваслаўя і каталіцтва з 1596 г. Закладзіны Уніі, спосаб праводжаньня яе ў жыцьцё, адносіны да яе польскага ўраду, польскага духавенства і грамадзянства — ўсё гэтае разам выказвае, што каталіцтва, гэта — толькі плашч для польскай палітычнай работы.

Так было і так ёсьць. Сяньня, у новай Польшчы, польскае каталіцтва ў беларускіх землях зьяўляецца, далейшым цягам, польска-шляхоцкай, пераважна наскрозь палітычнай трыбунай. Цяперашняе польскае ў нас каталіцтва, з дужа малымі выняткамі, выразна варожа адносіцца да беларускага народу, да яго духовага і матэрыяльнага адраджэньня. Кіраўнікі польскага ў нас каталіцтва аж дагэтуль не здабыліся на афіцыяльнае падтрыманьне для беларусаў беларускай мовы ў касьцеле, а ў Духоўнай Віленскай Сэмінарыі аж дагэтуль ня ўведзены хоцьбы некаторыя навукі беларусазнаўства.

Ня будзем пералічаць усіх тых крыўдаў, якія плывуць з такога палажэньня ў нас каталіцтва, як для каталіцтва самога, так і агулам для каталіцкай часткі беларускага народу. Успомнім аб галоўных. Каталіцтва, з аднаго боку, падавана беларускаму народу ў чужой, малазразумелай польскай мове, дзіўна мала закранула сэрца беларуса і дзіўна мала пакінула ў ім сьлядоў духовай культуры, а тое-ж каталіцтва, з другога боку, пакінула ў гэным сэрцы зярнё недаверыя да яго, якое доўга бадай не праяўляла жыцьця, а якое цяпер бруняе ў сэрцы каталіка беларуса, які, дзякуючы вайне, рэвалюцыі і разьвіцьцю народнай сьведамасьці, бачыць, што польскае каталіцтва для яго нешта моцна чужое, і што ў ім зазначаецца аднастароннасьць і нат' нязгоднасьць з праўдай.

Гэта шкоднае і зусім няслушнае злучэньне польскасьці і каталіцтва даець знакі жыцьця ня толькі ў Беларусі Заходняй—пад Польшчай, але нат' і... ў Савецкай Беларусі. Рэлігійныя прасьледаваньні каталікоў і судовыя працэсы каталіцкага духавенства ў Беларусі і Расеі ў дужа многіх выпадках выклікаліся гэнай самай польскай палітычнай падкладкай. Калі камуністычны ўрад наагул рэлігію ўважае за нейкі „дурман“ і з гэтага пункту гледжаньня ўкладае да рэлігіі свае адносіны, дык каталіцтва, зьмешанае з польскасьцю, каталіцтва, як спосаб апалячваньня беларусаў, ішчэ больш нялюба кожнаму камуністаму і для яго зусім незразумела.

На судзе арцыбіскупа Цепляка і кс. Буткевіча ў Маскве асуджаны разам і ксяндзы беларусы, як Хвецька і Юневіч. І што да гэтых апошніх, дык мусімо сказаць, што пацярпелі яны (натуральна, нясьведама) бадай больш за польскае каталіцтва, як за каталіцтва чыстае. І гэта зразумела. Калі два коні спрэжаны ў дышлі і адзін з іх уваліцца ў пропасьць, дык лёгка тудыж і другога ўцягне.

Думкі нашы пацьвярджае расейскае, выходзячае ў Коўні, „Эхо“ ў стацьці: „Верх изобретательности“.**) Вось што піша гэта газэта аб польскім каталіцтве ў Савецкай Беларусі:

> ...„Дзякуючы рыскаму дагавору, які аддаў пад апякунства Польшчы каталікоў, жывучых у Расеі, — польскія эндэкі сталі поўнапраўным гаспадаром Савецкай Беларусі. Па загаду з Польшчы беларускае каталіцкае духавенства пераводзіцца ў Расею, а на яго мейсца назначаюць польскіх ксяндзоў эндэкаў, на якіх накладаецца абавязак апалячваньня краю.

Высланыя ў Расею гэткія вядомыя беларускія дзеячы, як ксяндзы Ігнат Жаўня-

*) Пішучы аб польскім каталіцтве на Беларусі, мусім адзначыць, што расейскае праваслаўе у нас есьць такжа шкодным і ненармальным.

**) Калі вышла гэта газэта—няведама, бо нам удало-

ровіч, Ант. Ярмаловіч, Улад. Кундэ, Аляксандра Сак і інш...

Палітыка апалячваньня, ці лепш спосабы апалячваньня вядуцца з вялікай энэргіяй пад абаронай польскіх камуністых, якія служаць плашчом для эндэкаў. У парахвіях, дзе ніколі ня было польскай мовы, уведзена набажэнства па польску замест быўшага раней беларускага; такі лёс спаткаў Фашчоўку, куды назначаны ксёндз вядомы польскі патрыёт-шовініст Войнар, і многія іншыя сёлы.

Нацыянальная палітыка, праводжаная праз касьцёл, шкодзіць самаму каталіцтву, бо каталіцтва зачынаюць разумець, як аружжа польскіх паноў...

Беларускія біскупы, кіруючыя беларускім каталіцкім касьцёлам — Лазінскі і Ропп, жывуць у Варшаве і адтуль, згодна з жаданьнямі польскага ўраду, даюць загады падуладнаму сабе духавенству, жывучаму ў Беларусі.

Ці трэба гаварыць, як такое палажэньне гэтай справы злуе беларусаў, асабліва-ж беларусаў каталікоў, відзячых, што касьцёл абарачваецца ў агенцтва эндэкаў?!

І яны зварачваюцца да Сьв. Сталіцы з просьбай, каб кіраўніцтва каталіцкім касьцёлам было ўзята з польскіх рук і каб быў назначаны біскуп чужаземец.

Разьвіцьцё польскай заборчай палітыкі ў царстве камунізму—вось тая дзіўная грымаса жыцьця, усё перавышаючая"...

Зусім зразумелае зьдзіўленьне газэты „Эхо“ з такога палажэньня каталіцтва ў Савецкай Беларусі. Незразумелы толькі яго словы, што быццам беларусы каталікі, каб выйсьці з такога ненармальнага рэлігійнага палажэньня, зварачваюцца да Сьв. Сталіцы з просьбай назначыць ім біскупа чужаземца.

Гэта ня выхад. У сучасны мамэнт, калі рух беларускі даволі шырока разьвіўся, калі ўжо ёсьць значны лік беларускага каталіцкага духавенства і калі ўжо ў Усходняй Беларусі паўсталі зачаткі беларускай дзяржаўнасьці, — дзеля кіраўніцтва каталіцкім касьцёлам у Савецкай Беларусі **можа і павінна** быць створана Беларускае Біскупства з біскупам **абавязкова** сьвядомым беларусам.

Гэта адзіны спосаб проці польскага каталіцтва на беларускіх землях, шкоднага як для каталіцтва, так і для беларускага народу. Аб гэтым безадкладна належыць пачаць гутаркі з Рымам, і вялікі час, каб Рым зразумеў гэта. **Ад. Ст—іч.**

# Польскі бюджэт у Сойме.

(працяг і канец агульнай дыскусіі над бюджэтам).

## 8. Дамаганьне плебісцыту.

Адну з бязсумліўна найцікавейшых прамоваў сказаў украінскі пасол Павал Васыньчук.

Польскія газэты вельмі скарочана падалі гэтую прамову,—дзеля таго падаем яе паводле украінскіх газэт.

„Галоўная прычына непакою ў Эўропе, гэта—штучна выкраеныя пасьля вайны дзяржаўныя граніцы. Гэта ў першую чаргу датычыць Польшы, якая захапіла вялізарныя абшары няпольскіх зямель.

І вось усё больш расьце патрэба перагляду ваенных дагавораў і граніцаў. Аб гэтым кажуць ня толькі Троцкі ці Ракоўскі, але і англійскія міністры. Новыя кіраўнікі Францыі казалі калісь выразна, што Польшчы трэба было забясьпечыць зусім моцныя... — этнаграфічныя граніцы! Кожнаму ясна, што цяперашнія польскія граніцы зьяўляюцца прычынай ня толькі уціску меншасьцяў, але вечнай пагрозы вайной на Ўсходзе Эўропы. У Польшчы гэткая пастаноўка справы выклікае папросту паніку. Хаця Польшча дзеля свайго ўваскрасеньня карысталася прынцыпам самавызначэньня народаў, аднак-жа, як толькі захапіла, дайшоўшы да сілы, вялізарныя прасторы украінскай і беларускай зямель, дык адразу адносна да нашых народаў адкінула гэты прынцып самавызначэньня. Але гэтым Польшча пазбавіла сябе ўсякай маральнай моцы. Яна страціла ўсякія ўплывы за граніцай. Вы, паночкі, вінаваціце ў тым нашую „антыпольскую агітацыю“ за граніцай. Але-ж трудна. Вы-б можа хацелі душыць нас за горла, але каб мы ня крычалі і ня клікалі на помач. Самі вы выдаецё аб сабе сьвядоцтва для заграніцы.

Сыстэма паліцэйскага тэрору, што пануе на нашых землях, даводзіць насяленьне да абурэньня і выбуху, а заразам выклікае слушныя пратэсты выдатных дзеячоў у Эўропе. Урэшце паны дачакаліся нават ад Радаў трох нотаў у абароне украінскай і беларускай люднасьці і праваслаўнай веры ў Польшчы. Хай п. Чычэрын і падпісаў Рыжскі Трактат, але там у супольным карані нашых брацкіх народаў б‘ецца жывое сэрца, якое чуе боль катаванага тут брата...

Польшча трымае войска панад свае фінансавыя сілы. Польшча вядзе палітыку выкараненьня меншасьцяў. Польшча ў XX веку крывёй перахрышчывае царквы на касьцёлы. Рукі п. прэм‘ера Грабскага забрызганы крывёй украінцаў-грамадзян Польшчы.

Вось, што дае нам Польская Рэспубліка.

Цяпер, пад націскам Эўропы, гэтая справа меншасьцяў ці „Крэсаў“ абвешчана „найбольш палючай“. Дык вось, сьмею запэўніць паноў, што ўсе украінскія партыі, пачынаючы ад камуністаў і канчаючы фашыстамі, стаяць няўхільна на грунце самавызначэньня народаў і трэбуюць прылажэньня гэтага прынцыпу цалком да украінскага народу і іншых земляў,—у гэтым напрамку ўсе ўкраінцы зьяўляюцца нацыяналістамі.

Якраз цяпер пачалася новая хваля польскага тэрору на ўсіх украінскіх абшарах. Дзеля помсты за сваю немач польскі ўрад гняце кожную праяву народнага нездаваленьня—спосабамі папросту нячуванымі ў культурных краёх. Адначасна з палітычным, нацыянальным уціскам вядзецца плянова эканамічнае вынішчэньне нашых абшараў,—непасільныя падаткі ствараюць пагрозу узбурэньня і бунтаў.

У гэткім стане рэчаў наіўна спадзявацца на паляпшэньне ад якойсь „рэарганізацыі адміністрацыі“, ці маніцца злавіць якуюсь з украінскіх партыяў на тыя ці іншыя салодкія абяцанкі!..

Не, мае паночкі, ніводная партыя ў нас ня пойдзе ўжо на ўгоду з вамі. Мы чуемося зашмат моцнымі, каб ісьці на якія-небудзь канціахты ў гэтым напрамку. Нам ня трэба ўжо вашай ласкі панскай; мы самі чуем сябе гаспадарамі на нашай зямлі. Мы ведаем на ўласным гістарычным дасьледзе, што часовыя няўдачы і паражэньні не забіваюць змаганьняў народу. Наадварот,—яны толькі загартовываюць і выкоўваюць нацыянальны характар. Цяперашні страшны рэжым на нашых землях ёсьць нішто іншае, як стан вайны паміж Польшчай і намі, вайны ціхай, але ня менш страшнай і заядлай. Ня можна сказаць, што гэтая вайна бязкроўна, але тым больш у ёй жаху.

Дык вось—якіясь кампрамісы і паўмеры ў вырашэньні справы меншасьцяў ужо не дасягнуць мэты. **Цяпер справу вырашыць толькі плебісцыт, ці ўсенароднае галасаваньне.** Народ сам павінен адказаць на пытаньне, як хоча ён улажыцца і ўтварыць свой лёс. Мы трэбуем **поўнага, нічым неабмяжованага самавызначэньня народу.** Гэта—нашае першапачатнае права, ад якога мы не адступімся. Мір на Ўсходзе Эўропы можа быць захаваны толькі тады, калі Польшча прызнае гэты прынцып у цэлай поўні.

Палякі любяць гаварыць з запалам пра нейкую „культурна-гістарычную ролю Польшчы на Усходзе Эўропы“, пра нейкі „цывілізацыйны мэсыянізм Польшчы“, пра „заданьне вызваленьня суседніх народаў“—пад лёзунгам „вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі“. Адным словам—усе ведамыя старыя літаніі...

І вось канкрэтныя вынікі гэтага рамантычнага „мэсыянізму“, як толькі рэальная Польшча дарвалася да ўлады.

За 4 гады панаваньня на нашых землях—на адной толькі Холмшчыне з 287 існаваўшых там адвеку царквоў гвалтам адабраны 237. Ліецца кроў народная ў іх абарону дагэтуль. Адну з царквоў высадзілі дынамітам у паветра. Гэта—„культурная місія“...

А вось і „цывілізацыйная роля“. На ўсю Холмшчыну, Падляша і Палесьсе на мільён украінцаў няма аніводнай украінскай школы. Зачынены нават тыя, што існавалі ў часе нямецкай акупацыі. На ўсей гэтай тэрыторыі няма ніводнай сярэдняй школы. Украінскі Унівэрсытэт і Палітэхніка існуюць тайна, загнаныя польскай уладай у катакомбы. Польшча захапіла ўсю царкоўную (але толькі праваслаўную) зямлю і насадзіла на ёй асаднікаў. Прыналежнасьць да праваслаўя—гэта кляймо, якое зачыняе шлях да пасадаў ня толькі дзяржаўных, але і прыватных польскіх. Самы назоў „украінец“ наражае нас на зьдзекі і перасьледаваньні.

Вось, мае паны, як выглядае гэтая місія нясеньня на Ўсход заходняй культуры, вось якім зьяўляецца ў запраўднасьці гэты слаўны польскі „мэсыянізм“.

Дзеля гэтага ўсяго мы будзем галасаваць проці бюджэту і выражаем недаверые ураду п. Грабскага.

## 9. Да С.С.Р.Р.

Яшчэ больш яскравую прамову сказаў украінскі с.-д. пасол Войцюк. Падаем яе паводле газэты „Kurjer Polski“:

У Польшчы пануюць крызіс, голад, безработцьце, адчай, жалоба...

Ня Сойм, але біржа зьяўляецца запраўдным сэрцам капіталістычнага гаспадарства. Санацыя скарбу, нават калі ўдасцца, не прынясе ратунку. Наагул—сучасная капіталістычная Польшча ня мае ніякага мірнага выхаду... Як і ў пачатку Польшча шукала выхаду з крызісу праз вайну (авантуры Пілсудзкага), дык і цяпер крызіс паднімае авантурны дух польскіх мілітарыстаў. Ваеннае асадніцтва сталася запраўднай правакацыяй. Польская лявіца падтрымлівае гэтае, зробленае паводле найгоршых кайзэрска-царскіх прыкладаў, асадніцтва яшчэ гарачэй, як правіца. Польшча зрабілася запраўдным вастрогам для меншасьцяў...

Але гэта толькі надае большай сілы імкненьням нашага народу да вольнасьці і незалежнасьці...

І вось народ украінскі адкідае ўсялякія лібэральныя абяцанкі аўтаноміі і заяўляе, што дамагаецца ў аб‘яднанай Украіне **плебісцыту, каб далучыцца да Саюзу Радавых Рэспублік...**

## 10. Цікавая драбяза.

Правадыр украінскіх „хлібаробаў“ (штось у родзе нашых „аляксюкоўцаў“) мімаходам сьцьвярдзіў. што на „абяцаны ўжо аканчальна“ украінцам Унівэрсытэт у бюджэт аднак-жа ня ўстаўлена ні адна марка...

Знаменіты ксёндз Оконь, танны і нясумленны дэмагог, пагражаў ураду Грабскага, крычучы, што „польскі хлоп яшчэ мае цапы ў руках“...

Камуніст Ланьцуцкі казаў. што ўрад Грабскага—той-жа „Хьена-Пяст“, толькі б‘е яшчэ мацней; што буржуазная Польшча можа існаваць толькі, як калёнія загранічнага капіталу, але што ўвесь гэты эўра-

# БЕЛАРУСЫ Ў ЛАТВІІ.

(Глядзі № 7 „Сын Беларуса“).

X.

### Польска-маскоўскі хаўрус.

Змаганьне з беларускім нацыянальным адраджэньнем у Латвіі зрабіла нябачаны дагэтуль цуд: польска-маскоўскі хаўрус!

Памянёны ўжо расейскі дэпутат Сойму Карэцкі і польскі дэпутат Сойму Вержбіцкі падалі адзін аднаму руку ў агульным змаганьні з беларусамі.

„Паважаныя“ хаўрусьнікі падзялілі між сабою сфэры працы: гр. Вержбіцкі працуе над беларусамі-каталікамі, якіх хоча зрабіць „палякамі“, а гр. Карэцкі падбухторывае беларусаў праваслаўных і хоча зрабіць іх „просто русскими“.

Гр. Вержбіцкі пужае беларусаў каталікоў праваславіем, а дэпутат Карэцкі кажа беларусам праваслаўным, што іх хочуць перавярнуць на каталікоў.

Абодва зьбіраюць і вымагаюць розныя заявы, пушчаюць патрэбныя плёткі і абодва-ж адначасна і дружна выступаюць супроць беларусаў у Сойме і соймавых камісіях.

Да паноў дэпутатаў далучыліся нават Маскоўскі і Польскі Аддзелы пры Міністэрстве Прасьветы.—Са згоды гэтых Аддзелаў у Ілукштчыне, дзе яшчэ няма беларускіх школак, сярод беларускага жыхарства Маскоўскім Аддзелам утвораны асобнага тыпу расейска-польскія школы.

Вучацца ў гэтых школах беларусы каталікі, якія ня гутараць ні папольску, ні парасейску.

Бацькі і дзеці добра разумеюць, што яны не расейцы, бо паперш ня ведаюць расейскае мовы, а гутараць неяк па свойму — „папросту“, а па другое—яны ўсе каталікі. Па рэлігійнай адзнацы згодны-б, можа, былі яны залічаць сябе да палякоў, але польскую мову чуюць толькі ў касьцелі, ды ў польскім маёнтку, і гутарыць на ей ня могуць.

І расейская мова для іх—чужая, і польская мова—незразумелая, але вучацца і тае і другое, бо беларускае школы ўсё яшчэ ў Ілукштчыне няма, а вучыцца-ж трэба.

### Беларусы і Латгальцы.

У 1921 годзе, калі пачыналася беларуская нацыянальная праца ў Латвіі, найбольш моцнай Латгальскай партыяй лічылася Латгальская Сялянская Партыя, якая мела найбольшую фракцыю ў Устаноўчым Сойме.

Адносіны іншых Латгальскіх партыяў да яе былі дужа варожымі, і амаль што ўсе яны лічылі патрэбным з ёй, а таксама і з усім тым, што яна рабіла, востра змагацца.

Гэта партыя падтрымала беларусаў у іх дамаганьнях адчыненьня Беларускага Аддзелу і беларускіх школак.

Рэшта латгальскіх партыяў, змагаўшыхся з сялянскай партыяй, зараз-жа стала ў „апазіцыю“ і да беларускага руху ў Латвіі. Нават гэткая партыя, як Латгальская Трудавая, і тая заняла да беларусаў нейкае нявыразнае становішча.

Латгальская Сялянская Партыя ў сучасным Сойме дужа слабая (мае ўсяго адно мейсца), але адносіны да яе іншых латгальскіх партыяў усё яшчэ тыя самыя.

Ну, зразумела, дастаецца, па старай памяці, і беларусам, як апякаваным калісьці гэтай партыяй у часе яе ўплываў і сілы.

Ёсьць два-тры гарачыя ворагі беларусаў.—Гэта гр. Кемп і дэпутат Трасун Старшы. Абодва падзяляюць (а мо‘ і ўдахнаўляюцца) думкі інспэктара Свэнэ аб тым, што „беларусаў у Латгаліі зусім няма“.

Гр. Кемп у сваей барацьбе з беларусамі ня спыніўся нават перад паклёпамі і закідамі ў друку на паасобных беларускіх дзеячоў, і ў хуткім часе ў Рыжскім Акружным Судзе будзе разьбірацца адна з гэтых спраў аб абразе ў друку. Да гонару Латвійскага Сойму трэба аднесьці тое, што ён пастанавіў выдаць гэтага дэпутата Суду.

Прынцыповых пазіцыяў проці беларусаў у латгальскіх партыяў няма, калі не лічыць голыя заявы гр. Кемпа аб тым, што беларусы—гэта не беларусы, а—„быўшыя латгальцы“...

Існаваньне-ж агульнага змаганьня ў Латгаліі з польскімі ўплывамі павінна было-б, здаецца, утварыць нават супольнасьць інтарэсаў і тактыкі ў гэтым напрамку, але зразуменьня гэтае падсобнае ролі беларускага руху ў Латгаліі ў многіх латгальцаў яшчэ няма.

Магчыма, што некаторую (а мо‘ і дужа значную) ролю ў гэтым іграе той факт, што ў Латгаліі зьявілася цяперака новая форма польскае інтэрвэнцыі: і н т э р в э н ц ы я с я м е й н а я.

Праяўляецца яна ў тым, што найбольш уплывовыя і энэргічныя прадстаўнікі латгальскае інтэлігенцыі часта густа аказваюцца жанатымі з заўзятымі полькамі. У гэтых сямейках чутна польская мова, чуецца польская ідэалёгія і пануюць выразныя польскія ўплывы.

**Кастусёнак.**

пэйскі капіталізм без расейскіх рынкаў здохне, як дыхавічная кабыла. .

Жыд Прылуцкі дасьціпна казаў, што аб санацыі п. Грабскага можна паўтарыць вядомы анэкдот аб знамянітым прафэсару-хірургу: апэрацыя ўдалася бліскуча, але хворы памёр...

На гэтым скончана агульная дыскусія, і пачаліся даклады і дыскусіі па бюджэтам паасобных міністэрстваў.

# Інтэрпэляцыі Беларускага Пасольскага Клюбу.

## ІНТЭРПЭЛЯЦЫЯ

дэпутатаў Бэларусага Клюбу да пана Міністра Увутраных Спраў і да Міністра Зямельных Рэформаў у *справе гвалтаў і бязпраўных паступкаў камэнданта паліцыі* ў Жалезьніцы Наваградзкага павету.

Пасьля скасаваньня паншчыны сяляне, ня меўшыя свайго пасьцьбішча, атрымалі права карыстаньня з лясоў абшарнікаў для пасцьбы скаціны. Пасьля таго, як беларускія землі заняла Польшча, абшарнікі стараюцца самачынна пазбавіць нашае сялянства сэрвітутавых правоў, зьменшаючы сэрвітутавы абшар, а то і зусім недапушчаючы скаціны на сэрвітутнае пасьцьбішча. Польскія ўлады, як паліцыя, а таксама і Зямельныя Урады, замест праводжаньня ў жыцьцё зямельнае рэформы, чынна дапамагаюць паном-абшарнікам у справе вырываньня ад сялян іх сэрвітутавых правоў.

Вось-жа, сяляне вёскі Крэпачы, Гародышскай воласьці, Наваградзкага павету, карысталіся ад 1863 г. сэрвітутавым пасьцьбішчам у ўрочышчах Вускія, Пажар, Бэндры і Залоўкі, якія знайходзяцца ў супольным уладаньні сялян і абшарнікаў Шыкавецкіх.

У часе нямецкай акупацыі немцы збудавалі пры ўвойсьцю ў Бэндры дом для станцыі, які цяпер занялі для сябе Шыкавецкія з Старынак. У далейшым збудавана там было гумно і абгародка, і гэткім способам адрэзана дарога сялянам да іх сэрвітутавага пасьцьбішча ў 23 дзесяціны. Калі-ж сяляне стараюцца пераганяць сваю скаціну каля абгародкі, дык Шыкавецкія намагаюцца перашкодзіць гэтаму, нацкоўваючы на пастухоў сабак сваіх і пагражаючы страляньнем.

4 чэрвеня г. г. Язэп і Мікалай Шыкавецкія і іх служба, недапушчаючы 2 пастухоў, якія вялі на пасьцьбішча коней, так моцна пабілі іх, што адзін з іх, Пілiп Лабука, цяжка захварэў. 5 чэрвеня Шыкавецкія прывезьлі ў вёску Крэпачы на расправу камэнданта паліцыі з Жалезьніцы, які забараніў сялянам пасьвіць скаціну на сэрвітутным пасьцьбішчы пад пагрозай страляньня з рэвальвэру, трымаючы пры гэтым апошні ў руцэ. „Забараняецца вам пасьвіць скаціну, хоць-бы пасьцьбішча было і ваша!“—заявіў камэндант. Калі-ж вясковы солтыс пачаў быў тлумачыць камэнданту, што вёска ня можа вырачыся сваіх сэрвітутавых правоў толькі для таго, што гэтага хочацца самавольнаму пану-абшарніку, дык камэндант пачаў вымысьляць і пагражаць арыштам: „Bydło! dam wam po 5 miesięcy, posadzę was sam, jak już to uczyniłem w Rajce“ (Быдло, дам вам па 5 месяцаў, сам пасаджу вас, як зрабіў ужо гэта ў Райцы).

Апрача павыжшага брутальнага распарадкаваньня ў справах сэрвітутных з боку кіраўніка публічнага бесьпячэнства трэба дабавіць, што камэндант паліцыі ў Жалезьніцы мучыць мяйсцовую люднасьць падводамі, якіх ён вымагае, будучы ня толькі пьяным, але і цьвярозым. Паміма таго, што войт гміны Гародышча сабраў прымусовы падатак з сялян на ўтрыманьне стойкі, бясплатная рэквізіцыя падводаў практыкуецца і далей—беларускі селянін ня мае ні дня, ні начы, каб не прымушалі яго вязьці паліцыянта, вывядоўца, польскіх вучыцялёў, войта, яго жонку і інш., заводзячы гэткім спосабам новую польскую паншчыну.

Дзеля ўсяго вышэй паданага інтэрпэлянты пытаюцца ў паноў міністраў: 1) Ці маюць яны намер абараніць беларускіх сялян ад напасьцяў з боку паноў-абшарнікаў Шыкавецкіх і камэнданта паліцыі? 2) Ці маюць яны намер забясьпечыць сялянам карыстаньне іх сэрвітутным пасьцьбішчам? 3) Ці намераны яны пакараць камэнданта паліцыі за самавольныя пагрозы і распараджэньні? і 4) Ці намераны яны скасаваць новую паншчыну — дастаўленьне падводаў сялянамі на кожнае запатрабаваньне адміністрацыі?

Подпісы інтэрпэлянтаў.

Варшава, 20. VI. 24 г.

## ІНТЭРПЭЛЯЦЫЯ

паслоў з Беларускага Клюбу да пана Міністра Справядлівасьці ў справе безадкладнага **звальненьня з віленскага вастрогу** арыштаваных, якія **катаваньнем былі прымушаны да падпісаньня абвінавачываючых іх пратаколаў.**

Пасьля заняцьця Польшчай Беларускіх зямель беларуская, літоўская і ўкраінская інтэлігенцыя, рамесьнікі і сяляне церпяць нялюдзкія перасьледаваньні з боку ўрадовае ўлады. Перасьледаваньне гэнае пайшло так далёка, што за самы факт прыналежнасьці да няпольскае нацыянальнасьці дзяржаўная паліцыя накладае сваю руку на найсьвяцейшае права культурных народаў—на асабістую свабоду.

Дык вось, беларусаў, літвіноў, украінцаў і інш., якія дамагаюцца ад польскае ўлады сваіх правоў, гвалчаных на кожным кроку,—паліцыя арыштоўвуе, нялюдзка катуе іх, робіць фальшывыя пратаколы і прымушае арыштаваных, часта ўжо ў стане бязпрытомнасьці, падпісываць іх. Уложаныя гэтак абвіненьні перасылаюцца сьледчаму судзьдзі, а арыштаваныя—ў вастрог. Сьледчы судзьдзя вядзе сьледзтва аб быццамто абвінавачаных у нейкай дзяржаўнай здрадзе ў працягу 1—2 гадоў, прымушаючы гэтак бязьвінных людзей адбываць кару за ілжывыя абвінавачаньні паліцыяй.

Дзеля доказу гэтага падаем наступныя факты:

У месяцы сакавіку г. г. адвакат С. Міцкевіч, як судовы абаронца, прыбыў у вастрог у Вільні, каб пабачыцца з літвінамі: Умбрасам, Жэмайтісам, Тіунэлісам, Пагуляй і Тамулевічам, вінавачанымі ў палітычных праступках. Усе вінавачаныя паводле арт. 111 К. К., якіх дапрашываў адвакат кожнага асобна, заявілі, што прызналіся ца віны пад прынукай і пад уплывам катаваньня, якое мела месца ў палітычнай паліцыі: 1) Антон Умбрас, вучань літоўскае гімназіі, заявіў, што быў біты ў пяты рэзінай і па твару ў палітычнай паліцыі; 2) Ян Кумпа, вучань вучыцельскае сэмінарыі, быў біты Кудзэвічам і яголым памоцнікам Бобэрам рэзінай па сьпіне і па пятах; пасьля білі яго ззаду па шыі і па твару, ды нязвычайна балючым способам рвалі валасы на галаве; 3) Язэп Тіунэліс заявіў, што яго, зьвязаўшы, білі палкай, прасоўвалі паміж ног і паміж пальцаў патроны, пасьля білі рэзінай у пяты; 4) Мечыслаў Жэмайтіс заявіў, што ў палітычнай паліцыі яго білі асьпірант Рудзевіч, другі—аспаваты бляндын і трэці—брунэт. Білі яго ў габінэце, адумыслова прырыхтаваным, па твару, білі рэзінай па сьпіне, зьвязалі рукі, паміж кален уткнулі палку, білі рэзінай у пяты. А Рудзевіч біў найбольш па твару; 5) Францішк Тамулевіч заявіў, што яго білі ў палітычнай паліцыі 5 f. па твару, зьвязалі рукі і ногі, уткнулі палку паміж ног і білі рэзінай у пяты. Адзін з пералічаных паказаў, што на гэтае катаваньне палітычнай паліцыяй падаў на рукі вастрожнае адміністрацыі адпаведную жалабу, але яе ў яго на вачох парвалі.

Падаючы факты нялюдзкага перасьледаваньня польскае люднасьці паліцыяй у Польшчы, інтэрпэлянты пытаюцца ў Пана Міністра: 1) ці маніцца ўразжа ўняважніць усе абвініцельныя акты, уложаныя на падставе паліцэйскіх пратаколаў, падпісаных пад прымусам нялюдзкага катаваньня, і звольніць з вастрогу арыштаваных? 2) ці маніцца ўразжа выдаць судовай уладзе вывядоўцаў і паліцэйскіх, якія ўчынілі злачынства, катуючы арыштаваных і ўкладаючы фальшывыя акты абвінавачаньня?

Варшава, 18 чэрвеня 1924 г.

## ПІСЬМО

*Старшыні Беларускага Пасольскага Клюбу да п. Ваеннага Міністра.*

Варшава, 17.VI. 1924 г.

Да Пана Міністра Вайсковых Спраў

**у мейсцу.**

Беларускі Пасольскі Клюб атрымаў сягоньня паданьне гэткага зьместу:

„Паўтара тыдня таму назад у нашу вёску прыехалі польскія ўланы ў лічбе 53. На чале іх стаіць паручык. У першы мамэнт па прыезьдзе яны пачалі рабаваць, што папала. Рабуюць усё, што пападае; калі-ж нешта ім непатрэбна, дык нішчаць не шкадуючы. У начы забараняюць жыхарам выходзіць з хат. А тымчасам самі зрываюць стрэхі з дамоў, выламываюць дзьверы, ўламываюцца ў пуні і хаты, ды рабуюць усялякую ядоміну, вопратку, бяруць жывы і мёртвы інвэнтар, у начы выдоіваюць кароў. А ў дзень выкашываюць пожні і пастэўныя травы на палёх, ды ўсё награбленае адсылаюць некуды на сваіх падводах. На палёх па збожжу пасьвяць сваіх каней; пры найменшай патрэбе бяруць нашых каней дзеля выезду, не шкадуючы навет 2-летніх жарабят. Гэтак заганяюць нам і псуюць коні. Калі гаспадар просіць пашкадаваць маладога ці худога коніка, дык яго бязьлітасна б'юць.

„Мы зьвярнуліся аб помач да староства. Староста адказаў на нашу просьбу: „Вам гэта належыцца“!

„Такія самыя рабункі, апрача нашае вёскі, робяцца такжа ў вёсках: Ячнае, Ябланоўка, Мікалаеўшчына, Русаковічы і Оццэда, але ў апошняй, дзякуючы таму, што тамака пераважаюць каталікі, ксёндз зьвярнуўся да старосты, які сказаў: „To jest nasza krew!“, і рабункі ўразжа спыніліся. А мы асталіся безбароннымі і ў некалькі дзён утрацілі ўсё, што мелі; астануцца толькі голыя сьцены дамоў, калі і іх ня спаляць, як ужо ня будзе больш што рабаваць.

„Дзеля гэтага молім аб помачы і заступніцтве як найхутчэй у Варшаве і на месцы.

„Упаўнамочаныя жыхары вёскі Кучкуны:

(—) подпісы.“

Вёска Кучкуны, 16 чэрвеня 1924 г.

Падаючы вышэйшае да ведама Пана Міністра, просім выдаць уразжа загад, каб былі спынены рабункі, і цяжка пакараць вінавайцаў. Аб учыненых кроках просім нас паведаміць.

(—) **Б. Рагуля.**

Старшыня Беларускага Пасольскага Клюбу, Пасол на Сойм.

# Палітычныя падзеі.

### Польская дэмакратыя да францускай.

Левыя польскія партыі Сойму і Сэнату паслалі адозву ці адрас францускай лявіцы на імя прэм. Эрыо, у якой выражаюць радасьць з прычыны перамогі яе, і — зьдзіўленьне для Вялікай Францыі... Далей у адозьве, ці можа толькі ў „Роботніку“, штось наблутана, бо напісана літэральна так: „зычучы Польшчы Прышласьці так, як і Табе, Пане Старшыня, наступленьня такога парадку рэчаў, калі запануюць сацыяльная справядлівасьць і мір“. Далей ідуць камплімэнты „покоёвасьці“ Францыі.

Трэба, вельмі трэба зычыць, каб у Польшчы, а перад усім у польскай дэмакратыі, запанавалі нарэшце паняцьці справядлівасьці, ня толькі сацыяльнай, але і нацыянальнай, але дзіўна неяк, паздраўляючы францускага прэм'ера, складаць перад ім добрыя пажаданьні... Польшчы...

Няўдалая нейкая „дэмакратыя“ ў Польшчы...

### Камінтэрн аб дзясятых угодках суьветнае вайны.

Кангрэс Камуністычнага Інтэрнацыяналу ў Маскве на першым засяданьні прыняў рэзалюцыю аб міжнародным тыдню барацьбы проці імпэрыялістычнае вайны ад 27-га ліпня да 4-га жніўня ў сувязі з дзясятымі ўгодкамі выбуху сусьветнае вайны.

### Спадзяваньні на ўраджай у С.С.Р.Р.

Ня гледзячы на частковы неўраджай на паўднёвым усходзе, агульная сума ўраджаю аблічаецца сёлета крыху больш леташняга, іменна на 2786 мільёнаў пудоў пры 2748 мільёнах летась, а гэта затым, што сёлета значна пашырыўся абсеў палёў.

### Магчымасьць сарваньня англійска-расейскіх перагавораў.

Заяўленьне п. Пэнлевэ аб тым, што францускі ўрад мае далучыцца да лёнданскіх радава-англійскіх перагавораў, а таксама візыта п. Эрыо п. Мак-Дональду падалі маскоўскім колам падазрэньне, што пад відам узгадненьня становішч Англіі і Францыі ў справах расейскіх, канфэрэнцыя будзе адложана на неазначаны час.

### Манголія—Рэспубліка.

Мангольскі ўрад абвяшчае аб аканчальным абвешчаньні Манголіі Рэспублікай.

### Плян п. Эрыо.

Францускія газэты падаюць той плян, які павёз прэм'ер Эрыо ў Англію, і на які зусім згадзіўся Мак-Дональд, заявіўшы, што „не патрабуе ад п. Эрыо ніякіх ахвяраў“. Усе „гарантыі“, якіх дамагаўся Эрыо ад Англіі, былі прыняты Мак-Дональдам. Плян Эрыо абнімае—1) гарантыі правядзеньня пастанаўленьняў экспэртаў; 2) гарантыі гаспадарчыя і 3) гарантыі ваеннай бясьпечнасьці Францыі.

Эрыо трэбуе, каб цалком быў захаваны ваенны кантроль над Нямеччынай, пакінуты ў францускіх руках усе масты праз Рэйн і галоўныя стратэгічныя вузлы чыгунак акупаваных абшараў, ды каб Англія тое самае зрабіла на акупаваным яе войскам абшары, пакуль кантроль над гэтымі абшарамі ня будзе аддадзены Лізе Народаў... Апрача гэтага, плян Эрыо прадбачыць утварэньне агульнага пакту ўзаемнай абароны паміж Францыяй, Англіяй, Бэльгіяй, Італіяй, Чэхаславакіяй і Польшчай...

### Новая канфэрэнцыя.

Апошнія газэты прынясьлі новыя весткі аб праектаванай Эрыо і Мак-Дональдам канфэрэнцыі.

Канфэрэнцыя саюзных дзяржаваў мае сабрацца 16-га ліпня. Учасьце Японіі і Амэрыкі забясьпечаны толькі ў справах, якія яны вызначаць самі. Англійскія домініі будуць мець толькі дарадчы голас. Першым пунктам павесткі будзе справа правядзеньня ў жыцьцё праграмы адшкадаваньняў камісіі экспэртаў. Нямеччына будзе запрошана, каб практычна вырашыць гэтае галоўнае пытаньне.

### Перадача англійска-францускай ноты нямецкаму ўраду.

24-га г. м. уложаная пры спатканьні прэм'ераў нота Англіі і Францыі была праз паслоў апошніх у Бэрліне аддадзена нямецкаму міністру заграничных спраў Штрэзэману. Як мы казалі вышэй, нота трэбуе ад нямецкага ўраду поўнага кантролю саюзнай камісі над аружнымі сіламі Нямеччыны.

Нямецкі пасол у Парыжу Гэш — прыбыў у Бэрлін і быццам радзіць ураду прыняць дамаганьні ноты. Ведамая венская газэта падае, што нямецкі ўрад мае згадзіцца на ваенны кантроль, каб паказаць, што яму няма што хаваць ад саюзьнікаў...

### Вынікі ўвядзеньня 8-гадзіннага дня працы ў Францыі.

На Міжнароднай Канфэрэнцыі Працы францускі дэлегат міністар працы Годар заявіў, што спроба ўвядзеньня 8-гадзіннага рабочага дня дала

ў Францыі найлепшыя вынікі: вельмі палепшыла сямейнае жыцьцё работніка, павялічыла за 5 гадоў на 45 працэнтаў лічбу работніцкіх садоў і значна зьменшыла п'янства сярод работнікаў. Што датычыць прадуктыўнасьці працы, дык і тут 8-гадзінны дзень даў толькі плюс, але ня мінус.

### Будаваньне дамоў для работнікаў у Англіі.

Ангійскі парлямант прыняў урадовы праект будаваньня дамоў для работнікаў.

## „Новыя" адносіны да Нямеччыны.

### 1. Вынікі спатканьня прэм'ераў Англіі і Францыі.

Англійскі ўрадовы камунікат падае, што абодва прэм'еры ў прыязнай размове дайшлі да поўнага паразуменьня ва ўсіх справах, датычучых тактыкі адносна Нямеччыны, у частцы — спосабаў выкананьня праз апошнюю праграмы адшкадаваньняў, выпрацаванай камісіямі экспэртаў. Але абодва прэм'еры, не паразумеўшыся з урадамі бельгійскім і італьянскім, ня могуць прыняць аканчальных рашэньняў.

Дзеля гэтага прэм'еры прыйшлі да думкі склікаць у першай палове ліпня ў Лёндане канфэрэнцыю саюзьнікаў для аканчальнага ўстанаўленьня лініі паступаньня.

Апроч таго, абодва прэм'еры пастанавілі асабіста прыняць учасьце ў працы агульнага сабраньня Лігі Народаў у верасьні.

Назаўтрае прэм'еры дадалі да гэтага камунікату яшчэ і гэткае афіцыяльнае абвешчаньне вельмі важнага зьместу:

„Дзеля цяжкіх варункаў, у якіх знаходзяцца нашыя краі, мы пастанавілі заключыць маральны дагавор аб трывалай супольнай працы абодвух урадаў".

Не дарма, відаць, працуюць над зброеньнем Нямеччыны нацыяналісты і не дарма запрошаны ў „радыкальна-сацыялістычны" ўрад п. Эрыо ваенным міністрам найлепшы знаўца і галоўны ваенны кантралер над Нямеччынай, ген. Ноле...

Але-ж хто, як ня самі пераможцы, стварылі для сябе гэтыя „цяжкія варункі"?...

### 2. Новая нота да Нямеччыны.

Французскае тэлеграфнае агэнцтва дадае да навыжшага англійскага камунікату, што абодва прэм'еры ўлажылі пры спатканьні і тэкст новай супольнай ноты да Нямеччыны, у якой саюзьнікі запрапануюць Нямецкаму ўраду аднаўленьне нармальных зносінаў — пад варункам, што нямецкі ўрад дасьць „матэр'яльныя довады сваей добрай волі", а перад усім выпаўніць усе тыя дамаганьні адносна разаружэньня, якія выставіла Рада Паслоў у сваей апошняй ноце. Паказаны ў гэтым праекце ноты тэрмін 30 чэрвеня, да якога нямецкі ўрад павінен даць адказ на ноту саюзьнікаў, прыдае гэтай ноце характар ультыматуму...

Усё гэта паказывае, што ў Эўропе зусім ня так спакойна, як выдаецца на першы пагляд.

### 3. Рэвэляцыі ген. Ноле.

Усё, што напісана вышэй, будзе зусім зразумела, калі мы скажам аб камунікаце, які зрабіў англійскім журналістам сам ген. Ноле.

Ген. Ноле заявіў, што ваенная партыя ў Нямеччыне шпарка расьце ў сіле і высока падымае галаву. Нямецкая ваенная літэратура адкрыта апрацоўвае пляны нападаў... Усе ваенныя камандаваньні атрымалі новыя інструкцыі адносна да маланкава-хуткай мабілізацыі. Усе заграfactual консульствы адчынілі новыя рэгістрацыйныя бюро, каб у часе мабілізацыі выслаць да краю ўсіх здольных да вайны...

Лічба нямецкай арміі ўжо дайшла да 2 мільёнаў жаўнераў...

Ваенны кантроль над Нямеччынай фактычна немагчымы, бо набор навабранцаў адбываецца не ў назначаных тэрмінах. Немагчымы таксама кантроль над фабрыкамі ваенных матэр'ялаў...

Вось які адказ ужо даў за Нямеччыну той самы ген. Ноле, які фактычна ўкладаў ноту Рады Паслоў нямецкаму ўраду адносна разбраеньня нямеччыны...

### 4. „Новыя" варункі вываду войск з абшару Руры.

Пасьля ўсяго гэтага асаблівы характар атрымлівае тое, што падае франц. газэта „Матэн", быццам Эрыо і ген. Ноле ставяць канешным варункам ачышчэньня Рурскага раёну поўную згоду Нямеччыны на поўны і паўсюдны кантроль яе аружных сіл міжсаюзнай камісіяй.

Ды навет і тады ўсе рурскія жалезныя дарогі павінны будуць астацца „пад кантролем" (папросту — ў руках) саюзьнікаў — „на выпадак ухіленьня Нямеччыны ад яе абязацельств", — каб мець магчымасьць хутка выслаць па гэтых нямецкіх дарогах французскія войскі для расправы...

Вось якія „новыя" варункі „паразуменьня" з „новымі" сацыялістычнымі ўрадамі прапануюцца вялікай сувэрэннай нацыі...

Ня дзіва, што немцы перакананы, што толькі новая вайна створа запраўды новыя і дастойныя вялікага вольнага народу варункі яго істнаваньня...

## ХРОНІКА.

**Вынікі сыстэмы „выжываньня".** Паміма тэй беларускай моладзі, якая ў лічбе звыш сотні студэнтаў выэміґравала ў Прагу Чэскую з прычыны зачыненьня перад ёй дзьвярэй польскіх унівэрсытэтаў, за апошнія гады польская ўлада „выжыла" з краю цэлы рад беларускіх інтэлігентаў. У Латвіі аселі: выдатны культурны дзеяч Іван Краскоўскі і вядомы нацыянальны працаўнік Андрэй Якубецкі, абодва выкінутыя гвалтам за межы Польшчы. У Усходняю Беларусь выэміґравала доўгая чарга нашых інтэлігентаў, пачынаючы нядаўна памершым Кузьмой Тарэшчанкай, а іменна: аўтар беларускае геаграфіі Аркадзь Смоліч; вучыцель Віл. Бел. Гімназіі, аўтар гісторыі беларускае літэратуры, пісьменьнік Максім Гарэцкі, пазбаўлены ўладай права вучыць; журналіст, літэратар і сцэнічны дзеяч Л. Родзевіч, замучаны вечнымі паліцэйскімі вобыскамі; вучыцель Віл. Белар. Гімназіі Генадзі Багдановіч, пазбаўлены права выкладаньня ў Гімназіі, як „obcokrajowiec", хаця яго родны брат, Вячаслаў, — польскі сэнатар (!); Аляксандар Карабач, некалі сябра Бел. Нац. К-ту, вывезены гвалтам у Літву ў лічбе 33; Язэп Лагіновіч, рэдактар беларускіх газэт, пастаянна канфіскаваных і зачыняных уладай; Павел Жаўрыд,— ды нялічанае множства беларускіх настаўнікаў, якіх з родных вёсак „выжылі" паліцэйскія перасьледаваньні.

Паводле вестак, якія ад часу да часу прыходзяць да нас з Усходу, усе нашыя эміґранты знайшлі тамака для сябе шырокае поле дзеля культурнае працы—ў дзяржаўным масштабе. А самы факт іх бытнасьці ў Беларускай Сацыялістычнай Радавай Рэспубліцы будзіць у шырокіх беларускіх масах вельмі няпрыхільны да Польшчы настрой....

**Зьняцьце канфіскацыі „Krynісу".** Арышт, наложаны Камісарам Ураду на м. Вільню, Вімбарам, на № 9 беларускае часопі „Krynіса", зьняты судом. Як бачым, пан Камісар у сваім процібеларускім запале „перабаршчыў", калі нават суд быў прымушаны скасаваць ягоную пастанову.

Аднак, шкоды, зробленае Рэдакцыі „Krynісу" і чытачом гэтае газэты, ніхто вярнуць ня зьбіраецца....

Цікава, што канфіскацыя зьнята з № 9 „Krynісу" **пасьля** інтэрпэляцыі аб гэтым беларускіх паслоў у Сойме!

**Новая канфіската „Krynісу".** Камісар Ураду на м. Вільню сканфіскаваў ужо другі нумар часопісі „Krynіса". Гэта — № 14 з 15 чэрвеня. Пану Камісару здаліся „небясьпечнымі" дзьве карэспандэнцыі з вёскі...

У справе канфіскацыяў „Krynісу", як № 9, так і № 14, Беларускі Пасольскі Клюб зрабіў інтэрпэляцыі ўраду.

**Пакушэньне, ці дзіцячая забава?** У віленскай часопісі „Słowo" з 25 чэрвеня была надрукавана гэткая заметка:

**„Пакушэньне на броневік.**

У панядзелак панцырны поезд „Данута", ідучы з Ляндварова у Вільню, на галоўным шляху каля Воўчае Лапы быў спынены з прычыны таго, што пуць быў завалены каменьнямі і бярвеньнямі. Толькі дзякуючы ўважлівасьці жаўнераў поезд у час спыніўся і ўхіліўся ад катастрофы".

Назаўтрае, аднак, пасьля такога сэнсацыйнага паведамленьня ў тэй-жа газеце было надрукована, што пакушэньня тутака ня было, а гэта дзеці гуляючы панакладалі кучы каменьня, якое было жаўнерамі скінута.

## Весткі з вёскі.

### Вялікі народны сход у Слоніме.

На прошлым тыдні у Слоніме адбыўся першы вялікі мітынг беларускіх паслоў. Вялікая заля Народнага Дому была перапоўнена народам, які, ня зьмесьціўшыся у залі, кругом аблягаў дом. Прамаўлялі Паслы Тарашкевіч, Рагуля і Валошын. Азнаёміўшы сход з праграмай беларускага пасольскага клюбу, яны расказалі, што цяпер дзеецца у сойме, аб чым там радзяць і гавораць. Народ, выслухаўчы справаздачы паслоў, прыняў такую рэзалюцыю:

*Дамагаючыся скарэйшага правядзеньня зямельнай рэформы на аснове разьдзелу зямлі бяз выкупу і скасаваньня асадніцтва;*

*дамагаючыся роднай беларускай школы;*

*дамагаючыся спыненьня бязпраўя і гвалтаў над праваслаўнай царквой;*

*дамагаючыся абніжэньня падаткаў;*

*дамагаючыся запраўднай помачы ў адбудове Краю;*

*дамагаючыся палягчэньня ў карыстаньні лясамі і пашай;*

*дамагаючыся роспуску сойму і вызначэньня новых выбараў;*

*дамагаючыся на беларускіх землях свайго права і сваіх парадкаў, парадкаў працоўнага народу,—*

*мы, прадстаўнікі розных валасьцей Слонімскага павету, сабраўшыся на сходзе у ліку больш 1500 чалавек, пастанавілі* **пацьвярдзіць і падтрымаць праграму і работу беларускага Пасольскага Клюбу.**

Пасьля сходу паслы прымалі ад сялян розныя скаргі і давалі ім рады.

Настрой сходу быў вельмі высокі. Прамоваў слухалі з энтузіязмам. Вясковыя дзяўчаты падалі паслом вялізарны букет, пераважна з чырвоных красак. **Т. Б.**

### Панскія машэнствы.

*(М. Даўгінава, Вялейскага пав.).*

Нояк праз тыдзень пасьля адбыўшагася тут беларускага пасольскага веча, 15 мая, у нашым Даўгінаве узьнялася трывога: зьнекуль разышліся чуткі аб спадзяваным нападзе бандытаў. Чуткі гэтыя падмацавала паліцыя: у мястэчка пачалі прыбываць паліцэйскія з суседніх пастарункаў, і праз усю ноч па мястэчку адбывалася страляніна. Тое-ж было і назаўтрае, 16 мая. А ў начы з 18 на 19 адбыўся запраўды бандыцкі напад, толькі ня тут, дзе яго чакалі, а на Крывічы, дзе ніхто яго не спадзяваўся.

Ды ня ў гэтым справа, — а справа ў тым, што жыхары нашага мястэчка, перажыўшы дзьве трывожныя ночы і запужаныя выпадкам у Крывічох, пастанавілі шукаць нейкага ратунку для сябе. У Даўгінаве з'арганізаваўся камітэт абароны ад бандытаў. Сябры яго пачалі зьбіраць грошы на пасылку дэлегацыі ў Варшаву — да цэнтральнага ўраду. Людзі ахвотна давалі грошы. Пасьля камітэт гэны склікаў грамадзян на сход у валасьць—пісаць пэтыцыю да ўлады, каб забясьпечыла жыцьцё і маемасьць нашага жыхарства. Пісаць даручылі адвакату Казлоўскаму і аднаму асадніку-афіцэру. І што-ж тыя напісалі? Калі пачалі чытаць іх пісаньне, дык выбухнула праўдзівая бура абурэньня: бо гэныя паны, замест прасіць абароны ад бандытаў, напісалі, што быццам у бандытызьме вінаваты... ну, хто-б вы думалі? Ня больш і ня менш, як нашыя паважаныя паслы, што рабілі 8 мая веча, — кс. Станкевіч і А. Аўсянік! І гэныя эндэкі, што пісалі пэтыцыю, прасілі ў ёй урад, каб такіх „бунтаўшчыкоў" пасадзілі хутчэй у вастрог!

Так польскія панкі хацелі надужыць і выкарыстаць трывогу насяленьня дзеля сваіх подлых плянаў! Але ня тут тое было! Усе сабраныя горача запратэставалі проці гэткага машэнства, а пісаньне гэных панкоў парвалі на дробныя кусочкі і натапталі нагамі.

Напісаць новую пэтыцыю даручылі тады ўжо сваім, тутэйшым людзям, якія гэта і зрабілі.

**Пятручонак.**

## З УСХОДНЯЕ БЕЛАРУСІ.

### Што гэта знача?

У нумары „Сав. Беларусі" з 8 чэрвеня, які да нас дайшоў, надрукавана гэткая заметка:

НК Земляробства, на падставе дазволу НКЗ РСФСР, даручана прыступіць да працы па перасяленьню ў Саратаўскую губ. 1500 сялян з Магілёўскага і 500 сялян з Рагачоўскага паветаў.

Даволі дзіўна чытаць гэта: няўжо-ж у Радавай Беларусі для беларускіх сялян нехватае зямлі, і ім прыходзіцца шукаць яе у Маскоўшчыне?!

### Экспорт беларускіх тавараў.

Бел. Упр. Дзяржаўнага Гандлю цяпер асаблівую ўвагу зьвяртае на разьвіцьцё экспорту яек.

Упраўленьнем устаноўлена сувязь з усімі загранічнымі гандлёвымі прадстаўніцтвамі, куды маюць быць адпраўлены яйкі.

Гэтымі днямі Бел. Упр. Дз. Гандлю адпраўлены ў Рыгу 3-ці вагон яек.

Прымаюцца крокі да адчыненьня ў Оршы цэнтральнага складу яек, якія будуць перавазіцца па лініі Унеча—Магілёў.

За апошнія дні ў Польшчу адпраўлена каля 400 пудоў конскага воласу і каля 300 пудоў шчацінnага пуху.

### Сярод царкоўнікаў.

Зьезд прадстаўнікоў абнаўленцкай царквы БСРР, які адбыўся ў Магілёве, на апошнім пасяджэньні пастанавіў заснаваць вобласнае ўпраўленьне пад назваю Беларускага царкоўнага сыноду.

У склад сыноду выбраны 7 сяброў, з мітрапалітам Сэрафімам на чале.

З мэтаю намечаньня новых шляхоў далейшага царкоўнага жыцьця ў Беларусі, сынод выпусьціў да „ўсяе паствы" адозву, у якой заклікае „пакончыць як найхутчэй з „ціханаўшчынай", пусьціўшай на Беларусі глыбокія карэньні па віне мітрапаліта Мэлхісэдэка".

Рэдактар-Выдавец М. Шыла. Друкарня Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.